

Жыве Беларусь!

# БЕЛАРУС

Address: P. O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.

№ 523 ЖНІВЕНЬ 2006 г
Год выданьня 56


# Марш Паняволеных Народаў у Нью Ёрку

У нядзелю, 16 ліпеня, у Нью Ёрку адбыўся Марш Паняволеных Народаў, якім традыцыйна штогод пачынаецца Тыдзень Паняволеных Народаў, які ад 1959 году праводзіцца кожны год, каб прыцягнуць увагу грамадзтва да праблемаў паняволеных нацыяў, якія пакутавалі й пакутуюць пад дыктатарскімі ды таталітарнымі ўрадамі, а таксама пад чужынскім панаваньнем. Каля 50 год назад эміграцыйныя арганізацыі выхадцаў з Усходняй Эўропы, у тым ліку і беларускія арганізацыі, аб'ядналі свае намаганьні ў барацьбу супраць расейскага камунізму і стварылі Камітэт Паняволеных Народаў. Неўзабаве прэзыдэнт ЗША Д. Айзэнгаўэр падпісаў грамадзкі закон ЗША № 86-90, які абвясціў кожны трэці тыдзень ліпеня штогод Тыднем Паняволеных Народаў. З таго часу па ЗША адбыліся сотні дэманстрацыяў і акцыяў пратэсту супраць савецкага таталітарызму, русіфікацыі й вынішчэньня нацыянальнага жыцьця ва Ўсходняй Эўропе.

Пасьля каляпсу савецкага камунізму вызваліліся народы Эўропы, паўстала незалежная Рэспубліка Беларусь. Але ў хуткім часе пра-расейскія камуністычныя сілы ў Беларусі ўзялі рэванш. І вось ужо 12 год беларусы Нью Ёрку і ваколіцаў зноў выходзяць разам з прадстаўнікамі іншых Паняволеных Народаў, каб узьняць свой голас супраць пра-маскоўскага дыктатарскага рэжыму Лукашэнкі, каб паказаць волю да змаганьня за дэмакратычную і сапраўды незалежную Бацькаўшчыну, каб прыцягнуць увагу амэрыканскага грамадства да праблемаў Беларусі.

А 9:00 раніцы ўдзельнікі Маршу сабраліся на пляцы ля гатэлю Пляза адкуль прайшлі па 5-й Авэню да Сабору Сьвятога Патрыка, дзе прайшла імша за Паняволеныя Народы і былі асьвечаныя сьцягі. Затым удзельнікі Маршу Паняволеных Народаў прайшлі па 5-й Авэню да 72-й вуліцы ў Цэнтральным парку, і там адбылося афіцыйнае адкрыцьцё Тыдня Паняволеных Народаў. Луналі сьцягі, сярод якіх было найболей беларускіх. Беларускія ўдзельнікі Маршу несьлі плякаты з надпісамі "Свабоду і дэмакратыю—Беларусі", "Беларусь мае дзьве бяды: Лукашэнку і Чарнобыль", "Вызваліць усіх палітзьняволеных", "Спыніць этнацыд у Беларусі" ды іншыя. Раз-пораз выбухала: "Жыве Беларусь!", "Беларусь-ТАК! Лукашэнка-НЕ!" На адкрыцьці былі прачытаныя прывітаньні ад прэзыдэнта Дж. Буша, мэра Нью Ёрку М. Блумбэрга і губэрнатара штату Нью Ёрк Дж. Патакі. Ад імя беларусаў перад прысутнымі выступіў старшыня Нью Ёрскага аддзелу БАЗА сп. В. Зайка. Старшыня Камітэту Паняволеных Народаў сп. Г. Уліх падзякаваў беларусам за актыўны чынны ўдзел у імпрэзах Камітэту.



З дакладамі выступілі прадстаўнікі антыкамуністычнага руху, Эстоніі, усходненямецкіх выгнанцаў. Было адзначана, што ў горадзе Вашынгтоне ў хуткім часе будзе збудаваны мэмарыял Ахвярам камунізму, на які зьбіраліся грошы сярод розных этнічных структураў у ЗША, у тым ліку і сярод беларускіх арганізацыяў.

***Віталь ЗАЙКА***



# ЗВАРОТ

## да беларускай эміграцыі

Амаль падрыхтаваная да друку ўнікальная кніга ўспамінаў дзеячоў беларускай эміграцыі найстарэйшага пакаленьня. Успаміны - іх запісана і апрацавана каля 60, мяркуецца яшчэ 10 - сабраў малады беларускі журналіст зь Нямеччыны Аляксандар Адзінец.

Амаль ўсе гутаркі, запісаныя сп. А. Адзінцом, адбыліся па тэлефоне. Аўтар прарабіў сапраўды тытанічную працу, за ўласны кошт у вольны ад працы час тэлефанаваў у ЗША і Канаду, у Швэцыю і Бэльгію, Аўстралію і Аргентыну, Вялікабрытанію і Францыю, Польшчу і Чэхію.

У зборніку будуць зьмешчаныя ўспаміны Францішка Бартуля, Міхася Белямука, Лёнгіны Брылеўскай, Кастуся Вайцяхоўскага, Кастуся Вераб'я, Расьціслава Гарошкі, Барыса Данілюка, Сымона Жамойды, Анатоля Занковіча, Міхася Кавыля, Гелены Касоўскай, Уладзіміра Кушаля, Міколы Латушкіна, Ганны Мерляк, Уладзіміра Набагеза, Янкі Раковіча, Веры Рамук, Мітрафана Рэпкава-Смаршчка, Язэпа Сажыча, Міхася Страпка, Сьцяпана Страпка, Віталя Цярпіцкага, Міхася Сенькі, Антона Шукелойця, Васіля Шчэцькі (усе - ЗША);

Уладзіміра Бельмача, Віктара Бурдзя, Міколы Буцькі, Марыі Ганько, Барыса Кіркі, Аляксандра Мяцеліцы, Міхася Пашкевіча, братоў Івана і Анатоля Хрэноўскіх, Барыса Рагулі (усе - Канада);

Міхася Баяроўскага, Сільвестра Будкевіча, Юрыя Весялкоўскага (Вялікабрытанія),

Міколы Антуха, Аляксандра Бакуновіча, Яна Барысевіча, Аляксея Грыцука, Аўгена Грушы, Аляксандра Кулакоўскага, Міхася Лужынскага, Марыі Мароз, Эўлаліі Яцкевіч (Аўстралія),

Зоі Смаршчок-Жалязоўскай, Аляксея Арэшкі, Янкі Жучкі (Бэльгія), Юр'я Туронка і Мацея Канапацкага (Польшча), Лявона Шыманца (Францыя),

***Заканчэньне на бачыне 8***

# Заява Рады БНР

Напярэдадні саміту краінаў "вялікай васьмёркі" ў Санкт-Пецярбурзе Рада БНР зьвярнулася да лідэраў краінаў Захаду з патрабаваньнем ужыць усе магчымыя сродкі для ціску на рэжым Лукашэнкі.

У звароце Рады БНР адзначаецца, што нядаўні антыгуманны прысуд былому кандыдату на прэзыдэнта Аляксандру Казуліну сьведчыць пра тое, што рэжым Лукашэнкі ўзмацняе рэпрэсіўны ціск на грамадзянскую супольнасьць. Але гэта адначасна паказчык і таго, што цяперашнія спосабы ўздзеяньня на Лукашэнку малаэфэктыўныя.

Паказальна, што Крэмль і ягоны гаспадар Пуцін ніколі не выступілі ў абарону беларускай дэмакратыі, а наадварот, спрыяюць узмацненьню антыбеларускага рэжыму.

У такіх варунках, адзначае Рада БНР, Захад павінен абраць максымальна жорсткія спосабы ціску на Пуціна. Галоўнымі патрабаваньнямі павінны стаць адстаўка Лукашэнкі, правядзеньне дэмакратычных выбараў пад наглядам міжнароднай супольнасьці, але найперш - неадкладнае вызваленьне ўсіх палітычных вязьняў, адзначаецца ў звароце Рады БНР.

# Петыцыя беларусаў Эўропы

Перад правядзеньнем саміту краінаў "вялікай васьмёркі" ў Пецярбурзе беларусы Эўропы перадалі петыцыю амэрыканскаму прэзыдэнту Джорджу Бушу, у якой выказалі занепакоенасьць палітычнай сытуацыяй вакол Беларусі і наадназовымі грубымі спробамі Расеі пазбавіць Рэспубліку Беларусь дзяржаўнай незалежнасьці. Таксама быў перададзены Мэмарандум Рады БНР і зварот да кіраўнікоў вялікіх дзяржаваў "Аб палітычнай агрэсіі", прыняты на Сойме Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі БНФ і Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне".

Падчас перадачы петыцыі адбылася размова з супрацоўнікамі амэрыканскай амбасады ў Брусэлі, у якой была выказаная падзяка народу, прэзыдэнту і кіраўніцтву ЗША за паслядоўную палітыку ў падтрымцы дэмакратычных сілаў ня толькі ў Беларусі, але і ў іншых праблемных краінах. Супрацоўнікі амбасады выказалі паразуменьне ў сытуацыі адносна Беларусі і вакол яе.

Таксама беларускімі палітычнымі ўцекачамі з дазволу брусэльскай паліцыі і пры тэхнічнай падтрымцы Беларуска-Эўрапейскага Задзіночаньня быў зладжаны пікет.

*БЭЗ-Інфа www.unija.info*

# Заява Дзяржпэпартамэнта ЗША




Дзяржпэпартамэнт ЗША выдаў тэрміновую заяву з нагоды асуджэньня Аляксандра Казуліна на пяць з паловай гадоў зьняволеньня.

У заяве, падпісанай прадстаўніком Дзяржпэпартамэнту Шынам Макормакам, асуджаецца рашэньне суду. Судовы працэс называецца цалкам палітычна матываваным і распрацаваным з мэтай пакараць Казуліна за ягоныя палітычныя погляды. Урад ЗША працягне рабіць крокі па ўвядзеньні адпаведных санкцыяў супраць тых, хто адказвае за парушэньне грамадзянскіх правоў.

У заяве сказана: "Мы заклікаем беларускія ўлады вызваліць Казуліна і ўсіх тых, хто пазбаўлены волі паводле палітычна матываваных абвінавачваньняў, у тым ліку чатырох грамадзкіх актывістаў, зьвязаных зь непартыйнай групай па назіраньні за выбарамі "Партнэрства".

У ЗША ўважліва сочаць за падзеямі ў Беларусі і асабліва за лёсам палітычных зьняволеных. Раней быў забаронены ўезд на тэрыторыю ЗША некаторым чыноўнікам, а таксама ўведзены пунктавыя эканамічныя санкцыі. У мінулым месяцы Вашынгтон наведала Ірына Казуліна, якая ў тым ліку сустракалася з памочнікам Дзяржсакратара Дэвідам Крэмэрам, які запэўніў спадарыню Казуліну, што ўрад ЗША будзе працягваць аказваць ціск на беларускія ўлады і патрабаваць вызваленьня былога кандыдата ў прэзыдэнты і іншых палітычных зьняволеных.

# Новы амбасадар ЗША ў Менску

Прэзыдэнт ЗША Джордж Буш прызначыў амбасадарам у Беларусі Карын Стуард, якая цяпер узначальвае аддзел Дзяржпэпартамэнту ЗША, які займаецца дачыненьнямі зь Беларусьсю, Малдовай ды Украінай.

Карэн Стуард – кадравая дыпляматка. Цягам трох гадоў яна ўжо працавала ў амбасадзе сваёй краіны ў Беларусі і займала тады пасаду намесьніцы кіраўніка дыпляматычнай місіі.

Пасьля таго, як яе прызначыў амбасадарам прэзыдэнт ЗША, згодна з амэрыканскім заканадаўствам, яна мусіць яшчэ быць зацьверджаная Сэнатам.

Карын Стуард скончыла прэстыжны Ўэлслі-каледж (там, дарэчы, вучылася і Гілары Клінтан) і Ўнівэрсытэт нацыянальнай абароны ЗША.

Спадарыня Стуард стане першай жанчынай-амбасадарам ЗША ў Беларусі й шостым па ліку амбасадарам гэтай краіны ў Менску – пасьля Дэвіда Суорца, Кэнэта Ялавіца, Дэніэла Спэкгарда, Майкла Козака ды Джорджа Крола.

*Паводле Радыё Свабода*

# Сустрэча з прадстаўнікамі беларускай апазыцыі

У пятніцу 30 чэрвеня ў грамадзкай залі пры саборы Сьв. Кірылы Тураўскага адбылася сустрэча з апазыцыйнымі дзеячамі зь Беларусі Аляксандрам Дабравольскім і Валянцінай Палевіковай. Прыезд у Нью Ёрк стаўся працягам іхнага візыту ў Паўночную Амэрыку, куды яны былі запрошаныя канадыйскімі ўрадавымі арганізацыямі, дзякуючы намаганьням беларускай грамады ў Канадзе і дапамозе канадыйцаў-выхадцаў зь Беларусі.

Госьці напачатку коратка расказалі пра сябе. Аляксандар Дабравольскі — даўні актыўны дзеяч дэмакратычнага руху, адзін з стваральнікаў і старшыня Беларускай дэмакратычнай партыі, якая пазьней разам з Грамадзянскай партыяй утварылі Аб'яднаную грамадзянскую партыю (АГП). Да нядаўняга часу сп. Дабравольскі быў намесьнікам старшыні АГП, а цяпер зьяўляецца сябрам яе Палітычнай рады. Сп. Дабравольскі быў даверанай асобай кандыдата ў прэзыдэнты А. Мілінкевіча. Валянціна Палевікова — стваральніца і старшыня Партыі жанчынаў Беларусі. Цяпер зьяўляецца сябрам АГП, падчас выбараў кіравала выбарчым штабам Мілінкевіча па Менску. Затым прамоўцы распавялі пра мэты свайго візыту і пра сустрэчы з афіцыйнымі асобамі Канады, у тым ліку з галавой ураду, які паабяцаў паспрыяць, каб беларускае пытаньне было ўзьнятае на сустрэчы групы G8 у Пецярбурзе.

Затым размова зайшла пра падзеі сёлетняга "гарачага сакавіка", пра посьпехі й няўдачы апазыцыйнага руху ў Беларусі, пра праблемы, зь якімі даводзіцца сутыкацца сёньня. Трэба адзначыць, што абодва прамоўцы бралі самы актыўны ўдзел у правядзеньні прэзыдэнцкай кампаніі кандыдата ад апазыцыі Аляксандра Мілінкевіча і ў падзеях 19-25 сакавіка 2006 году. І В. Палевікова, і А. Дабравольскі былі арыштаваныя і правялі тэрміны за кратамі за ўдзел у падзеях на Плошчы Кастуся Каліноўскага, як сталі цяпер называць Кастрычніцкую плошчу, на якой 19 сакавіка пачаўся мітынг пратэсту апазыцыі, а затым быў створаны намётавы лягер, які пратрываў у ачапленьні КГБ і АМОНу 5 дзён на страшэнным холадзе. Сотні людзей прыйшлі выказаць сваё абурэньне і пратэст супраць тэрору і фальсыфікацыі, якія праводзіў рэжым Лукашэнкі падчас прэзідэнцкіх выбараў. Мужнасьць і адданасьць Беларусі тых людзей, што выйшлі на Плошчу, не былі марныя, яны выявілі новае пакаленьне змагароў, маладзёвыя сілы, што сёньня праводзяць акцыі пратэсту і прыцягваюць у свае шэрагі ўсё больш новых людзей.

В. Палевікова і А. Дабравольскі адказалі на пытаньні прысутных і задалі пытаньні пра дзейнасьць БАЗА і пра беларускую грамаду ў Амэрыцы.

**Зьміцер ПАРЭЦКІ**



*Валянціна Палевікова і Аляксандар Дабравольскі падчас сустрэчы.*

# Пра саюз Беларусі з Расеяй

Натальля Гарбанеўская, расейская паэтэса, журналістка, вядомая праваабаронца яшчэ з савецкіх часоў, якая жыве цяпер у Парыжы, наведала сёлета ў чэрвені Беларусь. У інтэрвію, гаворачы пра сучаснае беларускае грамадства, яна сказала: «Ёсьць людзі, у якіх шмат што зьмянілася, ёсьць людзі, у якіх мала што зьмянілася, але штосьці зьмянілася беспаваротна. Па-першае, я думаю, яны ўсе за незалежную Беларусь, а не за Савецкі Саюз і не за саюз з Расеяй, якога, дарэчы, і ў Расеі мала хто хоча. Дзеля таго, што гэта таксама камічны саюз. А ўжо тое, што ўсе людзі за незалежную Беларусь – гэта нямала. Гэта сур'ёзна. Да таго-ж, ніхто ня ставіцца да Лукашэнкі, як ставілася нейкая частка савецкага жыхарства да Сталіна – як да Бога. І ўсе знаюць, што Лукашэнка сьмяротны і ня быў калісьці пры ўладзе, был калісьці старшынём саўгасу, і, значыцца, зноў можа ім стаца.»

*(Хартыя-97)*

Андрэй Рабаў (Рябов), экспэрт Фонду Гарбачова, чалец навуковае рады Маскоўскага Фонду Карнэгі, на пытаньне "А што наконт ідэі зрабіць прэзыдэнта Пуціна прэзыдэнтам саюзнай зь Беларусьсю дзяржавы?" адказаў гэтак:

"Гэткі сцэнар абмяркоўваўся, але цяпер ад яго адмовіліся. Я думаю, што й самой саюзнай дзяржавы ня будзе, хіба што на паперы. Прэзыдэнт Беларусі Аляксандар Лукашэнка – адзін з самых эфэктыўных папулісцкіх лідэраў. І для большай часткі расейскай эліты ягоны прыход на расейскі палітычны рынак – гэта калясальная пагроза".

*www.bielaruspartisan.org*

# Беларусь за месяц

## Казуліна пакаралі

13 ліпеня ў судзе Маскоўскага раёну Менску быў абвешчаны прысуд экс-кандыдату ў прэзыдэнты Аляксандру Казуліну. Вырак (судзьдзя Анатоль Рыбакоў) вельмі жорсткі: пяць з паловай гадоў калёніі. Пракурор Сяргей Бортнік прасіў шэсьць гадоў.

Падчас працэсу не было задаволена ніводнае хадайніцтва А. Казуліна, ягоных адвакатаў, не былі заслуханыя ўсе сьведкі абароны, фатарэпарцёрам забаранялі весьці здымкі, а на час абвешчаньня прысуду з залі выдалілі ўсіх прысутных і самога А. Казуліна. Прысуд пачулі толькі адвакаты.

Цікава, што пасьля суду сп. Анатоль Рыбакоў зьехаў на браніраваным аўтамабілі. Напэўна, спалохаўся кінутай Аляксандрам Казуліным фразы: "Я буду зьяўляцца да вас па начах".

## 3,5 гады калёніі

6 ліпеня скончыўся працэс над ваўкавыскім прадпрымальнікам Мікалаем Аўтуховічам. Бізнэсовец, які займаўся пасажырскімі перавозкамі, атрымаў ад Кастрычніцкага суда Горадні тры з паловаю гады зьняволеньня ў калёніі ўзмоцненага рэжыма з канфіскацыяй маёмасьці і далейшай забаронай на пяць год займацца прадпрымальніцкай дзейнасьцю. Ягоны калега і супрацоўнік Юры Лявонаў атрымаў — 3 гады і 5 месяцаў з далейшай забаронай пяць гадоў займаць адміністрацыйна-гаспадарчыя пасады. Абодва бізнэсоўцы, якіх абвінавацілі ў няўплаце падаткаў, мусяць заплаціць больш за мільярд рублёў штрафу.



*Мікалай Аўтуховіч*

## Пазоў у паўмільёна

Кіраўнік дзяржаўнага тэлеканалу ОНТ Рыгор Кісель падаў у суд Савецкага раёну Менску пазоў на адную з самых масавых у Беларусі недзяржаўных газэтаў — "Камсамольская праўда ў Беларусі". Сума пазову — 1 млрд. беларускіх рублёў (каля 467 тыс. даляраў). Прычына — абраза гонару і годнасьці кіраўніка ОНТ. У нумары за 11 ліпеня журналістка газэты Натальля Крывец напісала, што ў дачыненьні да Рыгора Кіселя заведзеная крымінальная справа. Рыгор Кісель кажа, што гэта няпраўда. Газэта сьцьвярджае, што мае дыктафонны запіс гутаркі з супрацоўнікамі пракуратуры, дзе сьцьвярджаецца пра крымінальную справу. У пракуратуры ад камэнтароў адмаўляюцца.

Два месяцы таму журналісты гэтай газэты былі вымушаныя выплаціць 60 млн. рублёў штрафу кіраўніку мытнага камітэта А. Шпілеўскаму, які таксама палічыў, што закранутыя ягоныя гонар і годнасьць. Газэта памылкова зьмясьціла словы мэнэджара футбаліста Аляксандра Глеба Мікалая Шпілеўскага, але з фатаздымкам А. Шпілеўскага.

## Пратэст таксістаў

5 ліпеня ў Берасьці распачалася галадоўка ўладальнікаў маршрутных таксі, членаў іх сем'яў, кіроўцаў машынаў. Усе яны пратэстуюць супраць указу прэзыдэнта ад 22 сакавіка 2004 году аб рэспубліканскім зборы на ўвоз у краіну транспартных сродкаў з камэрцыйнаю мэтаю, згодна з якой указ прымяняецца і да аўтамабіляў, увезеных да таго, як пастанова была выдадзеная. На 23 ліпеня ў галадоўцы бралі ўдзел 13 чалавек, стан здароўя якіх з кожным днём пагаршаўся. Тым ня менш улады ніяк не рэагавалі на патрабаваньні.

Адная з удзельніц галадоўкі Ларыса Разановіч заявіла журналістам: "Усе галадоўшчыкі маюць намер ісьці да канца. Галодная сьмерць нас не палохае, бо выстаўленыя нам рахункі — амаль як галодная сьмерць".

Пратэст у Берасьці не адзінкавы пратэст таксоўшчыкаў у Беларусі. 14 ліпеня ў Менску зладзілі акцыю кіроўцы службы "0-52", якія пратэставалі супраць пазбаўленьня іх фірмы-ўладальніка радыёчастаты. Некалькі дзясяткаў машын зьехаліся да офісу тэлеканалу ОНТ, перакрыўшы ўсе пад'езды. Таксоўшчыкі разьехаліся толькі пасьля таго, як да іх выйшла кіраўніцтва каналу і карэспандэнты.

## Эўрапейскія тэндэнцыі

Паводле зьвестак Міністэрства статыстыкі і аналізу, на 1 чэрвеня 2006 году насельніцтва Беларусі складала 9 млн. 729,9 тыс. чалавек. Год таму беларусаў было 9 млн. 761 тыс. Прычым колькасьць памерлых больш чым у паўтары разы перавышае колькасьць тых, хто нарадзіўся. Так, са студзеня па травень 2006 году нарадзілася 37,8 тыс. чалавек, у той час як памерлі 60,9 тыс. Найбольш зьнізілася насельніцтва на Віцебшчыне: прыкладна 9 чалавек на 1000. У Магілёўскай і Менскай вабласьцях — 7,8, Гомельскай — 6,9, Гарадзенскай — 6,6, Берасьцейскай — 4,1. У Менску гэтая лічба складае — 0,1 чалавека на 1000.

## Кожны трэці — эўрапеец

52% беларусаў лічаць сябе савецкімі людзьмі. Такія вынікі апытаньня Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў (Летува), якое было праведзена ў чэрвені. Усяго былі апытаныя 1 509 чалавек. 52% клясыфікавалі сябе як савецкія людзі, 12% не змаглі адказаць на пытаньне. Затое 36% назвалі сябе эўрапейцамі.

53,6% рэспандэнтаў аддаюць перавагу "невысокаму, але гарантаванаму заробку, чым высокім, але не гарантаваным прыбыткам". З аднаго боку гэта, так, тыпова савецкі падыход да сыстэмы аплаты працы. Але на гэта можна глядзець па-іншаму. Дзьве траціны апытаных людзей — асобы старэйшыя за 50 гадоў зь невысокім узроўнем адукацыі, якім у сталым веку ўжо цяжка нешта мяняць у жыцьці. Таму такія грамадзяне больш залежаць ад дзяржаўнай апекі.

## Падзяка за працу

Налічаны (без уліку падаткаў) заробак у Беларусі ў ліпені склаў 603,96 тыс. беларускіх рублёў (282 даляры, альбо 223 эўра). У траўні ён складаў 579,3 тыс.

Сярэдні памер пэнсіі ў краіне сёньня складае 247,1 тыс. рублёў (115 даляраў ці 90 эўра). Сярэдняя пэнсія па ўзросту складае 260 тыс. (95 эўра), па інваліднасьці — 230 тыс (85 эўра).

## Прэпарат ад радыяцыі

Навукоўцы Інстытута генэтыкі і цыталёгіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі вынайшлі сродак для абароны жывых арганізмаў ад радыяцыі. У яго аснове — прыродны элемэнт мэлянін, які ўтрымліваецца ў валасах чалавека, пёрах птушак, поўсьці жывёлаў, сінім вінаградзе ды грыбах. Пігмэнт ёсьць магутным радыёабаронным рэчывам прыроднага паходжаньня. Тыя-ж грыбы з мэлянінам растуць і множацца пры радыяцыі ў 3,5 тыс. рэнтгенаў у гадзіну!

Распрацаваны прэпарат істотна зьніжае дозу абпраменьваньня чалавека, расьлінаў і жывёлаў, і яго нават можна прымаць за некалькі гадзінаў да меркаванага атрыманьня радыяцыі. Сыравінай для прэпарату будуць усё-ж грыбы.

## Змагаюцца з п'янствам

Міністэрства ўнутраных справаў Беларусі падрыхтавала ўказ прэзыдэнта, скіраваны на "дэалкагалізацыю насельніцтва". Згаданы ўказ будзе нагадваць вядомы ўказ кіраўніка КПСС Міхаіла Гарбачова па перааدоленьні п'янства 1985 годзе.

У Беларусі мяркуецца абмежаваць расьпіцьцё піва ў грамадзкіх месцах (у тым ліку ў летніх кафэ), зрабіць больш жорсткай адміністрацыйную адказнасьць за расьпіцьцё алькагольных напояў у грамадзкіх месцах.

Указ таксама ўвядзе адміністрацыйную адказнасьць — штрафы — за продаж (пакупку) піва непаўнагадовым, а таксама абмяжуе рэкляму алькагольных напояў і піва.

## Навіны спорту

Чацьверты год запар беларускія футбольныя клюбы ня могуць пераадолець першы бар'ер Лігі чэмпіёнаў. Вось і сёлета мінулагодні чэмпіён краіны салігорскі "Шахцёр" выбыў ужо ў першым раўндзе, прайграўшы чэмпіёну Босьніі "Шырокаму Брэгу" — 0:1 дома, і 0:1 у гасьцях.



***Затрыманьне пікетоўцаў падчас акцыі салідарнасьці 16 ліпеня ў Менску. Былі арыштаваньня больш за 40 чалавек. Двох зь іх пазьней асудзілі на 10 сутак арышту.***

У 2003 годзе барысаўскі БАТЭ "без пытаньняў" прайграў ірляндзкаму "Багеміянсу" (1:0, 0:3), у 2004 годзе "Гомель" — альбанскай "Тыране" (0:2, 1:0). Летась менскае "Дынама" — кіпарскаму "Анартосісу" (1:1, 0:1).

Што да салігорскага "Шахцёра", то вынік заканамерны. Прайсьці ў другі этап, ня маючы свайго стадыёна, які знаходзіцца на рэканструкцыі, а каманда гуляе ў іншых гарадох, было-б нахабствам.

- - - - - -

32-гадовы абаронца нацыянальнай хакейнай зборнай Руслан Салей памяняў клюб "Анахайм Майты Дакс", дзе гуляў з 1996 году, на "Флярыду Пантэрз". Кантракт заключаны на чатыры гады на суму у 12,1 млн. даляраў.

Чарговы сэзон у рэгулярным першынстве Нацыянальнай хакейнай лігі стартуе 4 кастрычніка. "Флярыда" — і, спадзяемся, зь ёй Руслан Салей — свой першы матч згуляе 6 кастрычніка (пятніца) — дома, у Санрайзе, з "Бостанам".

У кастрычніку ў Флярыды" чакаюцца наступныя матчы ў "беларускіх" гарадох Паўночнай Амэрыкі. 9 кастрычніка (панядзелак) "пантэры" прыедуць у Таронта, 25 кастрычніка (серада) у Нью-Ёрку з "Рэйнджэрс", 26 кастрычніка (чацьвер) ў Іст-Рутэрфордзе з "Нью-Джэрсі Дэвілз", а 28 кастрычніка зноў у Нью-Ёрку, але гэтым разам — з "Айлендэрз".

## Басовішча-2006

20—22 ліпеня ў Гарадку (Падляскае ваяводства, Польшча) прайшоў 17-ы конкурс маладых беларускіх выканаўцаў "Басовішча". Сёлета ў конкурсе ўзялі ўдзел 10 камандаў — восем зь якіх прадстаўлялі Менск, дзьве — Магілёў.

Галоўную ўзнагароду — прызапіс на "Радыё Беласток" атрымаў менскі гурт CDM, прыз "Радыё Паленіі" — магілёўцы з "Нэўмы", грашовую ўзнагароду Беларускай асацыяцыі студэнтаў і прыз ад студыі "Апола" — гурт "Парасон", грашовы прыз гміны Гарадок — "Людзі сьвятла". Урэшце, заахвочвальны прыз гітару — магілёўскі гурт "Водар сусьвет".

***Уласны карэспандэнт***

# Памёр Янка Брыль



24 ліпеня памёр народны пісьменьнік, клясык беларускай літаратуры Янка Брыль. Пісьменьнік, адзін з найвялікшых нашых аўтараў-тэтаў XX стагодзьдзя, ня змог перанесьці цяжкой апэрацыі. Пяру Брыля належаць такія цудоўныя творы як «Ніжнія Байдуны», «Золак, убачаны здалёк», «Жменя сонечных промняў», дзясяткі іншых.

4 жніўня яму-б споўнілася 89 гадоў. Апошнія гады жыцьця пісьменьнік імкнуўся трымацца па-за публічным жыцьцём.

Экс-рэдактар гарэты "Наша Ніва" Сяргей Дубавец у камэнтары Радыё Свабодзе назваў Янку Брыля "эталёнам літаратурнага густу і эўрапейскага выбару. (...). Ён даўно стаў хрэстаматыйным аўтарам і клясыкам, але ягоная слава працягвалася толькі ў кнігах і падручніках, а сам Брыль-чалавек пры новай уладзе быў забыты. Гэтак у нягеглага гаспадара на паддашку можа пыліцца каштоўны дыямэнт, але што толку, калі ты ня ведаеш яму цаны, а сам дыямэнт па прыродзе сваёй ня мусіць бараніць свае кошты...".

Пахавалі Янку Брыля 27 ліпеня на могілках у Калодзішчах пад Менскам.

Дарога бегла лесам, які ўсё радзеў. Вось там за кілямэтар ужо віднелася вёска зь сьвежа пабеленымі хатамі. Два тыдні прайшло, як адсьвяткавалі Вялікдзень. Вясна, у гэты другі год вайны, была раньняя і цёплая. Вада з балот ужо сышла, і на выспах паслося быдла.

Па дарозе ехала фурманка, запрэжаная белым канём. Колы ўздымалі пыл, ад якога дзерла ў горле, наперадзе сядзеў фурман, гаспадар падводы. Ён вёз двух афіцэраў. Калі выехалі зь лесу, Якуб пачуў, як з палёгкай уздыхнулі тыя, што сядзелі за ягонай сьпіной.

І тое-ж трэба было здарыцца, каб нарвалая гэтае ліха. Якуб прыехаў у сяло па сваіх справах, уладкаваў іх і, калі ўжо вяртаўся дахаты, каля ўправы яго спыніў

# Радня Хрыстова

паліцыянт, спытаўся куды едзе, загадаў пачакаць. Праз якую гадзіну з хаты выйшлі чацьвёра, наблізіліся да падводы. Чалавек, што падышоў першым, прывітаўся з Якубам за руку. Гэта быў тутэйшы стараста. Якуб яго трошкі ведаў.

- Завязеце, спадар Якуб, гэтых двух афіцэраў да гораду, а потым паедзеце дадому, - сказаў стараста.

- Але я не пасьпею дахаты..., - Якуб яшчэ хацеў штосьці сказаць, але той яго перапыніў:

- Ня той час, чалавеча, каб пярэчыць. Зараз большасьць людзей робіць тое, што ім загадваюць. Вось завязеце іх да гораду і вы вольныя. Стараста скончыў размову і зьвярнуўся да афіцэраў:

- Сядайце, - паказаў на фурманку. Тыя ў адказ штосьці прашваргаталі. Паліцыянт, што затрымаў Якуба, вынес з хаты падарожную скрыню, паставіў на падводу. Фурман падсунуў сваю лаву, на якой сядзеў, запрасіў афіцэраў сядаць, а сам узяў мех зь ежаю для каня, паклаў сьпераду і прымасьціўся на ім. Нарэшце ўсе ўселіся і рушылі.

Калі заяжджалі ў лес, густы і непрывітальны, Якуб азірнуўся. Ён пабачыў, што афіцэры паклалі аўтаматы на дно воза і прыклалі сенам. Адзін зь іх прыемна ўсьміхнуўся Якубу.

Вось яны ўжо едуць паўтары гадзіны. Мінулі лес. «Дзякуй Богу, - падумаў Якуб, - усё абышлося, і я яшчэ жывы».

Ён падганяў свайго каня, хацеў хутчэй даехаць да гораду.

## 1

Калі-б ён ведаў, што такое здарыцца зь ім, то запрог бы двох коней, а не аднаго. А так дахаты трапіць позна. Там, дзе быў пясок, конь, напружваючыся, ледзьледзь цягнуў фурманку.

Сонца схілілася на захад. Вось яго ніжні край датыкнуўся каміноў. Вось яно ўжо схавалася за хаты. Дзень дагараў. Пачалі гнаць быдла з пашы ў сяло. Фурманка нагнала адну такую чараду. За ёю ішоў высокі зграбны хлопец, год пятнаццаці, але ня ў меру худы. Ён быў апрануты ў белыя палатняныя порткі і ў такую-ж кашулю. Вопратка была чыстай. Пастух цягнуўся ззаду кароў і іграў на жалейцы. Прыемная, ласкавая мэлёдыя разьлівалася надвячоркам. Ён падводы ня бачыў, бо яна была ў яго за сьпіною, і ня змог пачуць, бо выграваў на жалейцы.

Якуб заслухаўся тою песьняю. Яна была шчырая і тужлівая... Калі хлопец браў ніжнія ноты, то здавалася жалейка стогне, плача. Ён ня ведаў, што яго слухаюць. Усё граў і граў. І бачна было, што ў гэтай тужлівай мэлёдыі знаходзіў уцеху для сваёй душы.

Калі замоўкла жалейка, Якуб пачуў ззаду сябе: «Гут, гут», - голасна прамовіў адзін з афіцэраў, а потым абодва пачалі пляскаць у ладкі, чым зьдзівілі фурмана і пастуха. Апошні стаў паўзбок, даючы дарогу падводзе, якая параўнялася зь ім: немец, што сядзеў справа, падсунуўся да свайго сябра, жэстам запрашаючы юнака сядаць да іх на лаву. Той, як мэтэор, узьляцеў на фурманку, але сеў на драбіны. Фурман павярнуўся на возе, каб бачыць дарогу і ўсё, што робіцца ззаду яго.

Адзін з афіцэраў папрасіў самаробную жалейку, хлопец яе падаў. Гэта была звычайная жалейка зь вярбы, якія ў той час рабілі ва Ўкраіне. Афіцэр агледзеў інструмэнт, прыклаў да вуснаў, падуў, але нічога не атрымалася. Усе засьмяяліся, а яго сябар забраў жалейку, выцер хусьцінкаю, падаў хлопцу і ламанаю расейскаю моваю сказаў: «Заиграй, пожалуйста, что-нибудь своё, украинское». Хлопец момант падумаў, потым саскочыў з фурманкі, узяў сапілку і заграў, крочачы паўзбок. Палілася ціхая ласкавая мэлёдыя, такая, як і гэты вечар. Гэта была песьня Шаўчэнкі. І адкуль яе ведаў гэты хлопец ! Калі закончыў граць, адзін з жаўнераў неспадзявана прадэклямаваў:



Яшчэ трэці пеўні не сьпявалі.
Ніхто нідзе не гаманіў,
Сычы ў гаі пераклікались,
Ды ясень раз у раз скрыпеў.

## 2

Неяк стала ўсім добра, забылася вайна й гора, кожны паглыбіўся ў свае думкі. З часам афіцэры сталі распытываць пастуха. Ён ім ахвотна адпавядаў.

- Чые пасеш каровы ?

- Чужыя, як звычайна, не свае.

- А чаму чужыя ?

- Бо сваіх ня маю. Я ў сьвеце нічога ня маю свайго, акрамя жалейкі. У свой час, меў усё, як і ўсе, у каго ёсьць бацькі. Вайна забрала майго тату, пазней памерла маці, а мы, дзеці, рассыпаліся, хто куды. Я трапіў сюды, - паказаў рукою на вёску, да якой набліжаліся, - прымкнуў тут да добрых людзей і пасу каровы.

Афіцэры заківалі сваімі галовамі, а Якуб сказаў хлопцу:

- Ты кажы павольней, каб яны лепей цябе разумелі.

- Добра, але навошта гэта ім?

- Калі пытаюцца, то бачна, што добрыя людзі, ня гледзячы на тое, што... – Якуб не даказаў.

- А дзе ты жывеш? - спытаў той, што сядзеў зьлева, ён размаўляў трохі лепей.

- Як дзе, у гаспадара. Я жыву тыднямі па людзях, яны мяне кормяць. Там і сплю.

- Відно, што цябе ня вельмі добра кормяць, такі ты худы.

- Як хто. Бяднейшыя кормяць лепей, багацейшыя ў большасьці скупыя, але, праўда, ня ўсе.

- А хто табе мые вопратку?

- Як хто? Сам. Сёньня ўдзень вымыў, яно ўсё за гадзіну высахла. Прыемна быць у чыстым адзеньні.

- А што ты апранаеш, калі здымаеш вопратку для праньня?

- Нічога. Я тады бываю падобны на Адама ў раю, але гэта працягваецца дзесьці гадзіну.

Усе засьмяяліся з гэтых слоў. Сьмяяўся і сам хлопец, яму было прыемна, што зь ім так размаўляюць паважаныя людзі.

- А где берьош мыльо? – неўгамоньваўся афіцэр.

- З мылам праблема. Але я знайшоў выйсьце. Раскладу вогнішча. А калі яно перагарыць, - чакаю пакуль пастыне. І потым бяру попел і карыстаюсь ім, як мылам. Выходзіць прыгожа. Ня верыце? Паспрабуйце!

Афіцэры перазірнуліся, нешта перагаварылі паміж сабою. Потым адзін адчыніў кош, выняў некалькі кавалкаў мыла і падаў хлапчыне. Пастух прыемна ўсьміхнуўся, узяў мыла і схаваў за пазуху.

## 3

Афіцэры яшчэ штосьці ціха паміж сабою перагаварылі, потым адзін паказаў на торбу, што вісела цераз плячо пастуха, і загадаў падаць яе. Хлопец паслухаўся. Адзін афіцэр трымаў торбу, а другі штосьці клаў у яе з каша. Якуб бачыў, што гэта былі кансэрвы й яшчэ штосьці загорнутае ў паперу. Калі торба была поўная, падалі хлопцу.

Потым адзін працягнуў вялікую плітку шакаляду, а другі выняў палярosы, адлічыў грошы і падаў хлопцу. Пастух не хацеў браць, але Якуб сказаў:

- Бяры, дзяціна, можа, грошы табе спатрэбяцца: купіш якое адзеньне на зіму. Ты маеш якога-небудзь спагадлівага й добрага чалавека? Аддасі яму грошы , а ён купіць табе што трэба.

- Можа й так, дзядзька, ня ведаю вашага імя.

Хлопец падзякаваў афіцэрам і ўжо хацеў ісьці. Афіцэр выцягнуў з каша кавалак вэнджанага сала, зьверху паклаў кола кілбасы і ўсё працягнуў хлопцу. Той закруціў галавою, маўляў, не вазьму. Падыйшоў да Якуба і сказаў схвалёвана:

- Дзядзька, яны нарабавалі ў кагосьці і хочуць, каб я ўзяў гэтае. Не. Хоць я й сірата, але гэтага ня будзе.

Ён гаварыў гэта так хутка, што ледзь можна было ўлавіць. Павярнуўшыся да афіцэраў, Якуб сказаў, як мага спакайней:

Спадары афіцэры, ня ведаю, ці вы зразумелі, што казаў гэты хлопец, але ён кажа, што нарабаванага ці аднятага сілаю ня возьме.

У Якуба на лбе выступілі кропелькі поту. Вось улез у балаціну! Што будзе далей, ён ня ведаў. Немцы пазірнулі адзін на аднаго, тады той, што сядзеў зьлева, саскочыў з фурманкі, абышоў вакол яе, падыйшоў да хлопца і сказаў:

- Гэта не нарабаванае. Гэта купленае за грошы. Ён сам плаціў, - паказаў пальцам на свайго сябра і працяг-

Заканчэньне на бачыне 5




# Весткі й Паведамленьні

нью ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня
Viestki j Paviedamlenni
Belarusan American Association, Inc.
166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org № 8 (487)


# Ліпеньскі сход аддзелу БАЗА ў Нью Ёрку

Чарговы ліпеньскі сход нью ёркскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня адбыўся 9 ліпеня. Напачатку сходу старшыня аддзелу сп. В. Зайка прадставіў прысутным госьцю зь Беларусі спн. Валянціну Палевікову, дзяячку апазыцыйнага руху і ўдзельніцу падзеяў 19-25 сакавіка на Плошчы Каліноўскага ў Менску. Спн. Палевікова распавяла пра сваю дзейнасьць у якасьці заснавальніцы й старшыні першай жаноцкай партыі ў Беларусі, якую сёньня, нажаль, рэжым здолеў раскалоць, як і шэраг іншых партыяў. Цяпер спн. Палевікова зьяўляецца сябрам палітрады Аб'яднанай грамадзянскай партыі, старшынёй менскага штабу аб'яднаных дэмакратычных сілаў. Распавёўшы пра свой, разам з сп. А. Дабравольскім, візыт у Канаду, спн. Палевікова потым расказала пра свой удзел у прэзыдэнцкай кампаніі Аляксандра Мілінкевіча і пра свае ўражаньні ад падзеяў 19-25 сакавіка ў Менску.

"Наагул выбараў як такіх не было. Вынікі былі проста сфальшаваныя. Добра вядома, што рэжым задзейнічаў усё, каб стэрарызаваць апазыцыю, прадухіліць любую праяву пратэсту. Тым ня менш грамадзтва адрэагавала на хлусьню і зьдзек — былі падзеі 19-25 сакавіка, была Плошча. Былі гэта трывожныя і трагічныя, але разам з тым і плённыя дні. Пра беларускія акцыі пратэсту даведаўся ўвесь сьвет, і, што важней, самыя беларусы адчулі, што разам можна і трэба змагацца за сваю будучыню. Моладзь ня хоча жыць пад дыктатурай. Калі намётавы лягер на Плошчы быў ліквідаваны, мяне таксама разам з усімі арыштавалі, і я была сьведкаю таго, як амонаўцы зьдзекваліся над моладзьдзю, кпілі – маўляў, сабраліся наркаманы і г. д. Трымалі ў турме КГБ у Менскім раёне, драўляныя голыя нары, сьмярдзючая парашапрыбіральня. 15 дзён не выводзілі на сьвежае паветра, увесь час чуваць былі толькі зьдзекі і абразы ад аховы. На 10-я суткі шмат у каго пачаўся нэрвовы стрэс, аднак людзі падтрымоўвалі адзін аднаго, праводзілі лекцыі, гутаркі. Шмат для каго турма стала палітычнай школай, і тыя, хто ня меў дачыненьня да палітычных арганізацыяў — сталі цікавіцца палітычным жыцьцём. Сёньня змаганьне супраць рэжыму Лукашэнкі працягваецца, яно прыцягвае новыя і новыя сілы."

Спн. Палевікова адзначыла, што ў наступным годзе ў Беларусі пройдуць мясцовыя выбары, і хоць зноў умовы для перадвыбарчай дзейнасьці будуць найгоршыя, апазыцыя будзе працаваць зь людзямі, інфармаваць, весьці дзейнасьць ад дзьвярэй да дзьвярэй. Спн. Валянціна Палевікова адказала на пытаньні прысутных. Сярод пытаньняў былі: як да падзеяў сакавіка ставіцца моладзь, ці здольная сёньняшняя апазыцыя выклікаць перамены ў сытуацыі, пра колер выбарчай кампаніі адзінага кандыдата ад апазыцыі Мілінкевіча, стаўленьне моладзі да мовы, нацыянальных культурных каштоўнасьцяў, каго бачаць палітычным лідэрам, ці апазыцыя гатовая да новых намётавых мястэчак. Прысутныя зь цікавасьцю сустрэлі выступ і шчырыя, адкрытыя адказы спн. В. Палевіковай.

Затым з гутаркай пра малавядомыя старонкі з гісторыі беларускай эміграцыі выступіў Саршыня Галоўнай управы БАЗА сп. Антон Шукелойць. Напачатку сп. Шукелойць ад імя БАЗА падзякаваў спн. Валянціне Палевіковай за цікавую гутарку і за адданую дзейнасьць на карысьць Беларусі. Затым ён спыніўся на выбітных асобах беларускай эміграцыі, і даў агляд гісторыі беларускай грамады ў Амэрыцы.

Затым у разьдзеле "Рознае" прагучэлі аб'явы і паведамленьні.

**Віталь ЗАЙКА**

# Радня Хрыстова

*Заканчэньне з бачыны 4*

ваў. – Мы жаўнеры ў вашай краіне ўжо год, і ніхто з нас двох ня выпіў і курынага яйка задарма, за ўсё мы плацім. Потым падыйшоў да сябра, узяў сала, падаў хлопцу і сказаў:

- Малайчына.

А той адказаў:

- Дзякую. Прабачце, я не хацеў вас абразіць.

Афіцэр скочыў на фурманку і кінуў фурману:

- Паганяй. Конь пабег шпарчэй. Праз некалькі хвілін яны ўжо ехалі вёскай, а хлопец стаяў з краю дарогі і шморгаў носам, думаючы: ці ня сон гэта? Але гэта ня сон, бо ў руках было сала, за пазухаю мыла, а плячо адцягвала напакаваная торба.

## 4

Калі выяжджалі зь сяла, ужо было зусім цёмна, дарога праляглa проста да гораду. Афіцэры ціха вялі размову, але Якуб да іх не прыслухоўваўся, ён думаў пра сваё: "Добра было-б даехаць да гораду без прыгод, не нарвацца на бандэраўцаў ці партызанаў, бо немцам і яму будзе канец." Гэтыя немцы якіясь незвычайныя, аўтаматы пахавалі ў сена, рукі белыя, відаць яшчэ ня ведалі працы, у размове вельмі лагодныя, пасля сустрэчы з пастухом сталі як радня для Якуба. Вось ён прыедзе ў горад і раскажа брату Бялінскаму, у якога заначуе, пра гэтых людзей.

У той час афіцэры размаўлялі між сабою:

- Мне, Ганс, сорамна за свой народ, які даў сьвету багата вядомых і вялікіх людзей, а заадно й такога нелюдзя, я не называю ягонага імя, але ты ведаеш, хто гэта. Я нічога не магу зьмяніць, але я не магу спакойна глядзець гэтым людзям у вочы. Чаго я тут? Што я тут забыў ці згубіў? Хіба для гэтага я вучыўся аж пяць год? Я вучыўся рабіць дабро, а не забіваць.

- То й рабі! Хто табе забараняе? Што мы можам зрабіць, Ёган, у нашым становішчы? Пакуль нас Бог ахоўваў. Будзем і далей мець надзею на Ягоную літасьць.

Прамінулі вёску. Дзесьці на палове шляху паміж горадам і вёскаю карчы ды лозы падступалі да самай дарогі. Найлепшае месца для нападу. Якубу ў кожным карчы здаваўся чалавек. Ён пусьціў каня, каб ішоў паўзбоч дарогі, тут ня грукалі колы. Грукату конскіх капытаў таксама не было чуваць. Праехалі невялікую адлегласьць, раптам ззаду сябе Якуб пачуў сьпеў. Гэта сьпявалі афіцэры. Спачатку ціха, а потым мацней, нарэшце, на ўвесь голас. Мэлёдыя была да болю знаёмая. Гэта яго вельмі зьдзівіла, а потым зьбянтэжыла і зварухнула. Калі пачалі сьпяваць прыпеў «Хутка Ён нас увядзе», фурман далучыўся да сьпеву афіцэраў. У гэты ціхі вечар на глухой дарозе дзеці Божыя сьпявалі хвалу Свайму Творцу. Іх было трое, але сьпявалі яны на двух мовах. Калі закончылі прыпеў, наступіла маўчаньне. Якуб пачаў другі куплет:

Там, забыўшы нядолю зямную,
Дзе цудоўна краіна сьвятая,
Усе сьпяваюць Творцу хвалу,
Праслаўляюць усім сэрцам Хрыста.

Конь спыніўся. Усе трое саскочылі з воза, сталі цалавацца і вітацца імем Таго, які зрадніў іх на гарэ Галгоце Сваёю пралітаю крывёю.

## 5

Пазней яны апавядалі пра сябе, а Якуб пра сябе. Гэта былі мірныя хлопцы, якія закончылі інстытуты, атрымалі мірныя прафэсіі. Вайна перакрэсьліла ўсе пляны. Ім прысвоілі званьні афіцэраў і адправілі на фронт. Вось ужо прайшоў год, як яны ва Украіне, але іхнія аўтаматы маўчаць, праўда, калі некалі страляюць у паветра, каб відаць было, што яны карыстаюцца зброяй. Замест гэтай зброі яны карыстаюцца духоўнаю – Словам Божым і малітваю.

Вось яны сталі на калені проста сярод поля на дарозе. Яны маліліся. Якуб ужо не шкадаваў, што староста прымусіў везьці гэтых людзей. Ён сустрэў сваіх братоў, родных па крыві Хрыста Збаўцы.

З-за хмар выйшаў месяц. Сьвятло яго сярпа асьвяціла зямлю. Тыя, што сядзелі ў засадзе, маглі страляць: добра было бачна фурманку й каня, які скуб траву, а таксама людзей, што стаялі на каленях, маліліся. Магчыма было кінуць усяго толькі адну гранату, і ўсё было-б закончана. Усе, хто ляжаў са зброяй у руках, паглядалі на камандзіра, чакалі, калі ён падасьць знак рукою.

Вось тыя, што стаялі на каленях, паўставалі, селі на падводу. Яны павольна аддаляліс ад тых, што сядзелі ў засадзе. Таварышы пачалі пытаць камандзіра:

- Чаго ня даў каманду? Навошта адпусьціў такую здабычу?

- Не паднялася рука, штосьці мяне трымала, - адказваў камандзір.

- Ах ты, баба, а не камандзір. Штосьці там цябе трымала? Скажы, што збаяўся.

- Не, не было каго баяцца, але штосьці мяне стрымлівала.

Ён казаў праўду: бо гэта быў жаўнер, які ня меў літасьці да сваіх ворагаў. Толькі яго трымала ня штосьці, а Хтосьці. Гэта той, чые імя пішацца зь вялікай літары, у чыіх руках наша жыцьцё й сьмерць, імя Якога Любячы й Міласэрдны. Наш Бог – Хрыстос Збаўца.

**В. ПІНКЕВІЧ, г. Ковель**
**Пераклаў з украінскай мовы**
**Павал КАЯН**

**Уплаты ў нью ёркскі аддзел БАЗА**
**Ахвяраваньні й складкі:**

Г. Ліхачова ............30

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты дасылайце на адрас:**
*Sergei Petrovich*
*115 Ave. S apt. 9*
*Brooklyn, NY 11223*
**Чэкі выпісвайце на**
*Belarusan American Association.*

## Увага! Наступны сход

нью ёркскага аддзелу БАЗА адбудзецца ў нядзелю, **13 жніўня 2006 году** ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага па адрасу:
***401 Atlantic Avenue ў Брукліне***
Пачатак сходу апаўдні. Запрашаем усіх жадаючых. Даезд цягнікамі падземкі **A, C** да станцыі **Hoyt-Shermerhorn Street** або цягніком **F** да станцыі **Bergen Street**.

# Нашая фанатэка

# Голас, які лучыць душы Беларусаў



Выдавецкая суполка БМAgroup, як і анансавалася раней, перавыдала яшчэ адзін альбом Данчыка, які да гэтага мы маглі слухаць толькі на касэтах – ***"Мы яшчэ сустрэнемся" (Modern Album, Inc., USA, 1992 г.)***

Асноўнае адрозьненьне гэтай кружэлкі Беларускага Салаўя з Амэрыкі ў тым, што на ейных трэках можна пачуць ня толькі цудоўную музыку і хвалюючыя сьпевы, але і адчуць прысутнасьць у песьнях вобразу той Беларусі, зь якой і сустрэўся знакаміты сьпявак і журналіст Багдан Андрусышын падчас першага побыту ў краіне ягоных продкаў і незабыўных канцэртаў у Менску ў 1989 годзе. Гэтая прысутнасьць Беларусі адчуваецца ва ўсіх песьнях згаданага альбому: ці то вобраза Беларусі сардэчнай у сваёй шчырай беларускасьці, ці то Беларусі люстэркава адваротнай – мэркантыльнай, прадстаўнікі якой імкнуліся пасябраваць з амэрыканскай зоркай Данчыкам з прыцэлам на пэрспэктывы паляпшэньня свайго дабрабыту за кошт беларускай эміграцыі...

Хто з тых музыкаў ці кампазытараў, што бралі ўдзел у запісу альбома, працавалі для будучыні Беларусі, а хто для сваіх карысьлівых мэтаў – пакажа час. А вось вынік гэтай супрацы, дзякуючы аб'яднаўчай сіле таленту Данчыка, стаўся своеасаблівым адбіткам цэлай эпохі пачатку зьдзяйсьненьня Беларуская Надзеі і Мары.

Альбом па традыцыі распачынаецца нейкай пазнавальнай ці нават эпахальна-клясычнай беларускай песьняй. На гэтым дыску Данчык вырашыў засьпяваць неўміручую "Пагоню" з музыкай Міколы Куліковіча на верш Максіма Багдановіча. Ведаючы пра спэцыфіку свайго вакалу і свае магчымасьці як сьпевака-лірыка, Данчык імкнецца паступова адысці ад мяккага лірызму і рашучым выкананьнем падкрэсьліць жыватворнасьць нацыянальнай ідэі ды волю да яе зьдзяйсьненьня. Трэба сказаць, што ў данчыкавай трактоўцы "Пагоні", аранжыраванай, дарэчы, беларускім кампазытарам-эмігрантам Яўгенам Магаліфам, ёсьць заўважныя сэнсавыя дысанансы. Маю на ўвазе клявішныя пройгрышы, якія імітуюць трывожна-гераічныя гукі трубы (trumpet) у духу забытых савецкіх кінагероў з прыгодніцкай стужкі "Неўлоўныя мсьціўцы". Гэтак у тагачасных агітатках (хоць і не без таленту зробленых) заўсёды падкрэсьлівалі асаблівасьці рэвалюцыйнага часу. Па задуме аранжыроўшчыка, такія мэлядычныя хады і расфарбоўкі павінны былі выявіць у "Пагоні" аўтарскую рашучасьць і гатовасьць ісьці на змаганьне, як "Толькі ў сэрцы трывожным пачую / За краіну радзімую жах ..." Хаця ў выніку атрымалася неспадзяваная рэмінісцэнцыя з савецкім кіно, паралель з мінулым выклікала ўспамін пра тое, што ў пачатку 90-х сталічнымі талакоўцамі "Пагоня" М. Багдановіча выконвалася на матыў аднайменнай песьні з "Неўлоўных мсьціўцаў". Але толькі да той пары, покуль ім ня стаў вядомы варыянт М. Куліковіча. Тады ўсё адразу стала на свае месцы...

Да такога кшталту эпахальных твораў, якія прадстаўленыя на кружэлцы "Мы яшчэ сустрэнемся", трэба аднесьці і песьню "Вечар над Шчарай" (ці "Слонімскі вальс") аўтарства Сяргея Новіка-Пяюна. Дарэчы, ў гэтым годзе будзе адзначацца 100-годзьдзе зь дня народзінаў знакамітага беларускага паэта-змагара. Да гэтай памятнай даты на замову Таварыства Беларускай Мовы імя Ф. Скарыны ўжо выдадзены спэцыяльны канвэрт, а пазьней будзе выдадзены адмысловы дыск-прысьвечаньне, на якім сярод іншых твораў С.Новіка-Пяюна мяркуецца размясьціць гэтую песьню ў выкананьні Данчыка.

Трэба адзначыць, што падчас побыту сьпевака ў Беларусі бадай самым плённым у пляне супрацы з рознымі беларускімі музыкамі і кампазытарамі было ягонае знаёмства з полацкім бардам Сяржуком Сокалавым-Воюшам. Дзякуючы гэтаму сяброўству на альбоме ёсьць ня мала цудоўных песень Сяржуковага аўтарства. Адна зь іх – "Чароўная Ганна" ўжо столькі гадоў прыцягвае нашую ўвагу трапяткім лірызмам і пяшчотным мэлядызмам. А таксама вельмі ашчаднымі і ніякімі аранжыроўкамі, якія падкрэсьлівалі прыгажосьць мэлёдыі, у якой адчуваецца рамантычны ўплыў лепшых узораў беларускага рыцарскага эпасу...

Яшчэ адная песьня С. Сокалава-Воюша з дыску "Мы яшчэ сустрэнемся" – "Як ты са мной". Аранжыроўкі гэтага твора нечым нагадваюць гучаньне дзяржаўнага ансамбля "Верасы". Але гэтая акалічнасьць не зьнішчае ў лірычным настроі песьні, той сум, які выклікае ў аўтара ўспамін пра першае каханьне. Безумоўна, гэтая кампазыцыя адная з самых лірычных і кранальных на дыску. Пра тое, якім чынам ішла праца над гэтымі творамі ўспамінае яе аранжыроўшчык Я. Магаліф, які на адмысловым сайце, прысьвечаным "Песьнярам", адзначаў: "Абедзьве песьні вельмі прыгожыя, і я імкнуўся ўкласьці ў аранжыроўку ўсю душу. Перапісваў інструмэнты часам па семдзесят разоў, каб дабіцца гуку акустычнай гітары і флейты, які-б мяне задавальняў..."

Адная зь лепшых кампазыцый тандэма Магаліф-Сокалаў-Воюш – "Туманы", у якой аўтары і выканаўца выказваюць сваю невычэрпную любоў да беларускай прыроды, прыязнасьць да някідкіх беларускіх краявідаў, відарысаў родных вёсак, палёў і лясоў... Па запісу можна ўявіць, якія пачуцьці выклікала гэтая песьня ў Данчыка. Адчуваньне такое, быццам ягонае сэрца сьціскаецца ад тугі і ўспамінаў пра свае былыя вандроўкі па Беларусі.

Яшчэ адная ўдалая кампазыцыя гэтых аўтараў – "Два Полацкі". Сваім паэтычным строем – параўнаньнем двух Полацкаў – Бацькі Гарадоў Беларускіх і Полацка заакіянскага (беларускага грамадзкага цэнтру ля Кліўленду) – песьня абуджае ўспамін пра часы спадзеву на нацыянальнае Адраджэньне 80-90-х гадоў мінулага стагодзьдзя і адкрыцьця Беларусамі з мэтраполіі культуры Беларусаў Амэрыкі: "Жыве Беларусь ў блізкай цяпер Амэрыцы..." О, як цяпер аддаляецца яна ад розуму нашых суайчыньнікаў у сёньняшняй Беларусі, асабліва, калі нанач яны паглядзяць наскрозь хлусьлівыя "палітычныя агляды" БТ!

А вось песьню "Харашуха" Данчык запісаў на студыі Беларускага радыё падчас ягонага першага прыезду ў Беларусь. Гэтая песьня выконваецца пад акампанэмэнт ансамбля народных інструмэнтаў, якім кіраваў Л. Сьмялкоўскі. Дарэчы, ён і аранжыраваў "Харашуху" так, што яна вельмі адрозьніваецца ад ўсяго, што запісана на альбоме пад акампанэмент сынтэзатара. Гэта дадае разнастайнасьці гукавой палітры альбому.

Даўнішняе сяброўства зь "песьняром" Лявонам Барткевічам знайшло свой працяг у "Калыханцы". Песьня ў свой час вельмі часта гучала ў вячэрніх дзіцячых перадачах Беларускага тэлебачаньня. Але гэта было да прыхода на БТ Зімоўскага, Кісяля, Рыбакова, Казіяткі..."Калыханка" аўтарства З. Яўтуховіча на словы Л. Пранчака да сёньня засталася ўзорам цудоўнай песьні для беларускіх дзетак.

Можна зразумець тое, чаму папулярная ў свой час у СССР песьня "Хатка панад рэчкаю" У. Мігулі трапіла на гэты дыск. Бо пераклад яе тэксту зрабіла непаўторная Натальля Арсеньнева, надаўшы вершаваным радкам ноткі эміграцкага суму і ўспамінаў пра маладосьць і жыцьцё на Радзіме. Тое-ж можна казаць і пра песьню, у якой вельмі тонка інтэрпрэтуюцца цудоўныя радкі нашага знанага паэта Сяргея Грахоўскага. У Беларусі былі спробы стварыць песьню на гэты вельмі асабісты верш. Але яны не былі ўхваленыя аўтарам, бо ня мелі сугучча з думкамі паэта. Версія-ж Я. Магаліфа ў выкананьні Данчыка, які за невялікі час сьпяваньня цалкам раскрывае ўнутраны сэнс паэзіі С. Грахоўскага, была вельмі прыязна ацэненая паважаным аўтарам. І гэта, відавочна, стала адною з самых яскравых адзнак вартасьці таленту Данчыка і ўсёй згаданае кружэлкі.

Завяршаючы альбом "Мы яшчэ сустрэнемся" Данчык зноў узяў адказнасьць на сябе, выканаўшы гімн Беларусаў "Магутны Божа" Міколы Равенскага і Натальлі Арсеньневай. У адрозьненьні ад варыянту гэтага твору, што запісаны, напрыклад, на мэмарыяльным дыску "Мікола Равенскі. Магутны Божа. Незабыўная спадчына" (БМAgroup, 2001г.) Данчыкава выкананьне напоўненае ціхім малітоўным пачуцьцем, суразмоўем сам-насам з Богам. Але фінальная частка твору, пераўвасобленая блізка да царкоўных канонаў, ужо больш аптымістычна трактуе пачуцьці Беларуса, які ня страціў сілаў дзеля барацьбы за будучыню незалежнай і дэмакратычнай Беларусі, за тое, каб Беларуская Мара і Надзея зьдзейсьніліся.

Выхад гэтага альбому Данчыка ў Беларусі зноў цьвердзіць тое, што, ня гледзячы на ўсе перашкоды, "Мы яшчэ сустрэнемся"!

***Анатоль МЯЛЬГУЙ,***
***музычны аналітык***

## ЗВАРОТ да эміграцыі *Заканчэньне з бачыне 1*

Ванды Губэрт-Другавец (Аргентына), Надзеі Касмовіч-Міцкевіч, Барыса Кіта (Нямеччына), Юр'я Станкевіча (Чэхія).

Друкуюцца ўспаміны Яніны Лукашык (Швэцыя) пра свайго мужа, заснавальніка Беларускай грамады ў Швэцыі Базыля Лукашыка, Петрака Смаршчка пра свайго бацьку, праваслаўнага сьвятара, прафэсара Вышэйшай школы перакладчыкаў у Антвэрпэне Аўгена Смаршчка, распавядае пра сваё жыцьцё ў Нямеччыне сын знанага вайскoвага дзеяча Дзьмітрыя Чайкоўскага, Анатоль Чайкоўскі.

Асобна будуць зьмешчаныя ўспаміны Барыса Кіта пра розных вядомых дзеячаў эміграцыі. Такім чынам, у кнізе прадстаўленыя ўсе кантынэнты, усе канфэсіі, увесь спэктар палітычных прыхільнасьцяў нашай эміграцыі. Кожныя ўспаміны будуць дапоўненыя фотаздымкам альбо фотаздымкамі.

На жаль, за паўтара года, пакуль ішла праца над кнігай, адышлі ў лепшы сьвет некаторыя інтэрв'юэры: Мікола Латушкін, Барыс Рагуля, Францішак Бартуль, Янка Раковіч. Выдадзеныя ў кнізе ўспаміны будуць добрай памяцьцю пра іх.

Засталася толькі адна праблема - на кнігу не хапае грошай. Палова неабходнай сумы сабраная, але неабходная другая палова. Кніга мае выйсьці ў сэрыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" пры канцы 2006 году. У зьвязку з тым МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" зьвяртаецца да ўсіх беларусаў на эміграцыі з просьбай аб дапамозе ў выданьні кнігі, якая можа стацца сапраўдным помнікам беларускай эміграцыі XX ст.

Ахвяраваньні можна пералічваць на рахунак аўтара:

Aliaksandr Adzinets
IBAN: KE2679650000500815253
BIC: BYLAKEM1MIL
З пазнакай "**на кнігу**"

P.S. Паколькі праца над кнігай канчаткова не скончана, ахвочыя - тыя, каго няма ў вышэйпраліченым сьпісе з 60 успамінаў, - могуць да 20 жніўня дасласць свае ўспаміны (пажадана з фотаздымкам) аўтару зборніка на наступны адрас:

***Aliaksandr Adzinets***
***Hintere Dorfstr.20***
***63834 Sulzbach am Main***
***GERMANY***
ці на e-mail: ***adzinets@telegraf.by***

## Новая кніга

*Сяргей НАВУМЧЫК*. Сем гадоў Адраджэньня.

Фрагмэнты найноўшай беларускай гісторыі (1988-1995)

Выданьне: «Беларускія ведамасьці», Варшава — "Clovek v tisni", Прага, 2006 г. — 140 стар.: іл.




# Пра нядаўняе Беларускае Адраджэньне

Кніга Сяргея Навумчыка пра нядаўняе Беларускае Адраджэньне, якое вярнула незалежнасьць Беларусі, выйшла з друку ў ліпені гэтага году накладам ўсяго адна тысяча асобнікаў. Гэтая кніжка павінна-б была зьявіцца даўно, але з-за розных прычынаў выходзіць са спазьненьнем у той час, калі непрыяцелі беларушчыны (нават лютыя непрыяцелі), супраць якіх мы змагаліся за незалежнасьць Бацькаўшчыны, стварылі ўжо цэлую сваю літаратуру сфальшаваных падзеяў, наперабой пэцкаючы Беларускае Адраджэньне і здабыткі нацыянальнай рэвалюцыі. Прычыны такой іхняй пасьпешнасьці зразумелыя, бо вайна за Беларусь трывае далей. Але ёсьць адна галоўная схаваная прычына, якая пабуджае іх да актыўнасьці — гэта жаданьне ашукаць гісторыю. Марнае жаданьне, аднак, бо гісторыя падзеяў пачынаецца толькі тады, калі не жыве пакаленьне людзей, якія стварылі падзеі. Усё што пішацца сучасьнікамі — гэта працяг змаганьня, даведзеньня да іншых сваёй рацыі і сваёй праўды.

Аднак ізноў-жа рацыя падзеяў мераецца праўдай рэальнасьці. Рэальнасьць нашай барацьбы такая — што ёсьць незалежная беларуская дзяржава і беларуская грошы, межы і мытня, амбасады і нацыянальнае грамадзянства. Ёсьць праўда пра Чарнобыль і генацыд, адроджаныя дзяржаўныя сымбалі нацыі, школа і гісторыя. За гэта змагаліся мы з Масквой і з камуністамі.

Рэальнасьць іхнага дзеяньня (альбо бяздзеяньня) у тым — што існуе антыбеларускі рэжым, што палітычна ліквідаваная дзяржаўнасьць беларускай мовы, вынішчана беларуская школа, нацыянальная навука і вышэйшая адукацыя, зноў сфальсыфікавана гісторыя, зноў беларус ня ўласьнік зямлі і ня творца ўлады. Зноў над краінай савецкія сымбалі, зноў пад пагрозай незалежнасьць дзяржавы.

Каляніяльныя сілы пры падтрымцы Масквы вярнулі старое. Яны змагаюцца "за Беларусь" пад сьцягам каляніяльнай ідэі "злучэньня з Расеяй". Мы, адрджэнцы, змагаемся "за вольную Беларусь" пад сьцягам нацыянальнай ідэі незалежнасьці і Беларускага Адраджэньня.

На гэтым палягае ўся розьніца і сутнасьць канфлікту ў Беларусі. Трэцяга тут ня існуе (і ня дадзена) вось ужо 200 гадоў. І ня будзе дадзена пакуль жыве расейская імпэрыя і яе вялікадзяржаўная палітыка. Той хто "за вольную Беларусь", той мусіць змагацца з Расеяй. У кнізе Сяргея Навумчыка адлюстраваная нашая рацыя, нашая беларуская праўда і нашае змаганьне.

Кніга напісаная фрагмэнтарна. Але адлюстраваныя важнейшыя падзеі, зьвязаныя зь незалежнасьцю і барацьбой з камунізмам. Месцамі аўтар падрабязна перадае напружаную атмасфэру таго часу, калі нешматлікай дэпутацкай Апазыцыі Беларускага Народнага Фронту даводзілася, гаворачы ваенным тэрміналёгіяй, змагацца за кожны куст і за кожны дом, кідаючыся ў адчайныя атакі, часам мімікрыруючы і ўдаючы адступленьне, і нападаючы зноў.

Дзейнасьць і, галоўнае, палітычныя здабыткі дэпутацкай Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня — гэта абсалютна неверагодная і ўнікальная зьява ў гісторыі эўрапейскага парлямэнтарызму. Асэнсаваньне яе не паддаецца фармальнай лёгіцы. І тым ня менш гэта факт, што Апазыцыя БНФ, маючы 8% дэпутатаў у парлямэнце рэгулярна перамагала камуністычную большасьць (амаль 90% дэпутатаў) у галоўных пытаньнях, здабыла незалежнасьць парлямэнцкім мэтадам насуперак прамаскоўскай пазыцыі камуністычнае бальшыні, спыніла дзейнасьць КПСС у Беларусі рукамі і галасамі самых-жа камуністаў, якія былі супраць БНФ.

Агульная рэальная колькасьць дэпутатаў сягала 345 асобаў (па канстытуцыі БССР патрабавалася 360). Дэпутацкая апазыцыя БНФ мела менш за 30 дэпутатаў (23 – 27), а разам з Дэмакратычным дэпутацкім клюбам ня больш 70. Астатняе камуністычна-намэнклятурная большасьць жорстка падпарадкаваная ЦК КПБ і камуністычным кіраўнікам у парлямэнце. І тым ня менш быў такі фэномэн, які фармальна мяжуе з абсурдам — камуністы, трымальнікі абсалютнай улады ў краіне і бальшыня ў парлямэнце, цярпелі паражэньні ад Апазыцыі БНФ.

Мне якраз зразумела, чаму яны прайгравалі (але тэма вымагае спэцыяльнай гаворкі). Найперш трэба згадаць, што сумарная колькасьць неадукаванага розуму не пераходзіць у калектыўную дозу розуму, колькасьць у якасьць. Гэта вядома. Тут закон Гегеля ня дзейнічае. Апазыцыя БНФ у сваім інтэлектуальным і адукацыйным разьвіцьці стаяла вышэй за камуністычную намэнклятуру. Але галоўнае — франтаўцы ў адрозьненьне ад камуністаў адлюстроўвалі моцную энэргічную ідэю свабоды, дзяржаўнай незалежнасьці і грамадзкай справядлівасьці, яны не былі заплямленыя ўдзелам у намэнклятурнай уладзе. Франтаўцы наступалі, заганялі камуністаў у абарону, у пазыцыю адкіданьня нашых добрых ініцыятываў. Мы пазбаўлялі іх магчымасьці да канструктыўных дзеяньняў (да якіх яны і так ніколі не імкнуліся). Усё гэта адбываася на вачах грамадзтва.

Істотна таксама тое, што маса дэпутатаў намэнклятуры ў Вярхоўным Савеце не была палітыкамі і мела пра парлямэнцкую дзейнасьць цьмянае ўяўленьне. Яны прывыклі выконваць загады партыйных сакратароў (у асноўным, як трэба галасаваць), не разумеючы часам сутнасьці таго, за што галасуюць. Літаральна ўсе парлямэнцкія палітычныя дыскусіі ў Вярхоўным Савеце Апазыцыя БНФ выйгравала ў камуністаў, што назаўсёды, з сухім лікам, за які яны адыгрываліся кнопкамі галасаваньня. Але-ж і тое — не заўсёды.

Дзеля рэальнай перамогі галасамі мы стасавалі ня толькі разумную кулюарную працу (дзе галоўнае было — чалавечая павага да апанэнта і не спрачацца, памятаючы, што ў спрэчках ніколі не нараджаецца ісьціна). Мы часта ўжывалі асаблівую тактыку, якую прыдумвалі на кожны выпадак сур'ёзна і скрупулёзна, а часам лёгка і са смехам. Часта, напрыклад, мы стасавалі прыём "паралельнай мэты" ці " пабочнай задачы". Гэта тады, калі непасрэдна, адкрыта, "у лоб" дасягнуць мэты было немагчыма (большасьць галасавала-б адмоўна). Тады мы акцэнтавалі дыскусію на пабочнай задачы, прыймальнай для большасьці (ці прыдумвалі такую). Прыняцьцё пабочнай задачы як галоўнай дазваляла часам закамуфляваць і незаўважна правесьці галоўную пазыцыю, якую мы хацелі. Гэта звычайна рабілася ў паартыкульнай дыскусіі і галасаваньні.

Парлямэнцкая камуністычная маса інтуітыўна адчувала гэтую нашу траянскую тактыку, але не заўсёды магла яе зразумець. Гэта выклікала ў іх псыхалягічны шок містычнай падазронасьці да ўсяго, пра што мы казалі і што прапаноўвалі. "Нам подбрасывают, — крычалі яны па любому поваду, — нас уводят в сторону" і г. д. Вынікам шоку стала імкненьне камуністаў усё рабіць наадварот, галасаваць ад адваротнага, насуперак усяму, чаго хацелі дэпутаты Апазыцыі БНФ. Мы скарысталі гэты іхны псыхалягічны калапс і некалькі разоў з гумарам правалілі іхнымі-ж рукамі іхныя-ж ініцыятывы супраць Фронту і Беларускага Адраджэньня. Альбо наадварот быццам-бы "нязгодай" праваквалі іхняе галасаваньне за нашыя ідэі (характэрны прыклад галасаваньне за Дэклярацыю аб суверэнітэце). Некаторыя эфэктыўныя выпадкі такой тактыкі з камуністычнай масай Сяргей Навумчык апісвае ў гэтай кнізе.

Паражэньні абсалютнай камуністычнай бальшыні Вярхоўнага Савета перад нешматлікай палітычна і інтэлектуальна выразьбленай франтаўскай фракцыяй паказалі поўную гніласьць, застой, дэградацыю і нікчэмнасьць камуністычнай каманднай сыстэмы знутры. Намэнклятурныя камуністы аб'ектыўна былі няздольныя ні на якую стваральную справу дзеля народа Беларусі, акрамя як быць перашкодай, ляжаць калодай на шляху народнага адраджэньня і нацыянальнага разьвіцьця ды цягнуць усіх пад Маскву. Палітычная дурнота камуністычных кіраўнікоў у тых крыху не стандартных для іх умовах мяне часам уражвала. Памятаю галасаваньне за Белавескія пагадненьні. Зразумела, што большасьць намэнклятуры прагаласуе "за", бо пагадненьні падпісаў Кебіч (калі б толькі адзін Шушкевіч, дык яны-б яго тады зьнялі з пасады). І вось важна выступоўць кіраўнік камуністычнай большасьці ў Вярхоўным Савеце сакратар ЦК КПБ В. Ціхіня і выступае супраць пагадненьняў. Мала таго, ён яшчэ адзіны галасуе супраць ("не паступ'юся прынцыпамі"). Такое вось палітычнае харакіры вернага самурая. Пасьля гэтага самазьнішчэньня ён яшчэ зноў думаў кіраваць камуністычнай бальшынёй. (Потым, у 1996, Ціхіня яшчэ нашкодзіць Беларусі разам з Шарэцкім як ніхто — праваляць імпічмант Лукашэнкі). Так што нам, апазыцыі БНФ, тады яшчэ, можна сказаць, крыху пашчасьціла на палітапанэнтаў. З выразьбленымі ды разумнымі было-б цяжэй.

Асаблівa паказальным быў прыклад на травеньскай сэсіі Вярхоўнага Савета БССР у 1991 годзе адразу пасьля красавіцкіх масавых страйкаў і маніфэстацыяў рабочых у Менску (дэманстравалі больш 100 000 рабочых). Камуністычная верхавіна Беларусі на той час была самай рэакцыйнай, самай антынароднай і самай прамаскоўскай у СССР. Першы сакратар ЦК КПБ і дэпутат Вярхоўнага Савета СССР А. Малафееў выступае тады за жорсткую палітыку і за ўвядзеньне надзвычайнага становішча ў СССР. Аналізуючы тыя падзеі, пачынаеш разумець як высьпявала ідэя ГКЧП і кадэбоўскі путч у Маскве.

На сэсію камуністы вынесьлі тры законапраекты: аб увядзеньні прэзыдэнцкай пасады ў БССР, закон аб выбарах прэзыдэнта і закон аб надзвычайным становішчы. Камуністычная верхавіне БССР (па ўзгадненьні з Масквой) хацелася расправы і дыктатуры. Заля Вярхоўнага Савету аж "рымела" ад рашучасьці намэнклятуры прыняць гэтыя законы. У гэтакіх умовах мы пачалі парлямэнцкую дыскусію з камуністамі і абмеркаваньне іхных праектаў. Абмеркаваньне доўжылася 15 дзён. Гэта было адно з найцяжэйшых нашых змаганьняў. У выніку камуністычная бальшыня была разьбітая ўшчэнт, "пасечаная", падзеленая на групы, пераагітаваная супраць праектаў і ўсе яны (гэтыя праекты) былі праваленыя пры галасаваньні гэтай-жа, рашучай на пачатку, бальшынёй.

Канешне, мы "выкаляцца" і ў залі, і ў кулюарах, і ў друку. Але магчымасьць нашай перамогі (там дзе ніякіх лягічных і статыстычных магчымасьцяў не існавала) была закладзена, як я лічу, іхнаю ж палітычнай дурноце, у чванлівым цэкоўскім "банзізме" камуністычных намэнклятурных рэтраградаў, якія нешта плянавалі, пісалі і спускалі "к исполнению», шмат не аналізуючы.

Калі-б гэтыя законапраекты не падаваліся імі пакетам, калі-б аддзялілі (на іншую сэсію) закон аб надзвычайным становішчы, нам цяжка было-б аргумэнтавана ўлічыць гэтых недасьпелых "гэкачэпістаў" і выразна паказаць, што яны плянуюць зрабіць праз увядзеньне прэзыдэнцтва ў Беларусі. Пасьля паўмесяца штодзённых бесперапынных дыскусіяў і размоваў шмат якія дэпутаты зразумелі, на што разьлічвалі малафеевы. Цэкоўскай дыктатуры пабіваліся правінцыйныя намэнклятурышчыкі і шэраговыя камуністы. Я ўжо не кажу, што яны таксама былі падзеленыя на групы (умоўна, праўда) і мелі свае абласныя інтарэсы. Мы гэта ведалі і стараліся скарыстаць у змаганьні.

Тая травеньская перамога над камуністамі дала нам крылы, камень зваліўся з душы, мы верылі ў будучыню, у свае магчымасьці і ня ведалі страху. Потым быў ГКЧП, правал путчу ў Маскве і спаўненьне надзей — вяртаньне незалежнасьці Беларусі.

У кнізе Сяргея Навумчыка добра апісаныя галоўныя карціны гэтай падзеі, калі ўсё вісела на валаску, і ўсё ўдалося, сталася дзень у дзень, хвіліна ў хвіліну, і мы не спазьніліся, пасьпелі на апошні цягнік. Мы ўдзячны Богу, што зьлітаваўся Ён тады над Беларусяй.

Праца Сяргея Навумчыка цікавая ня толькі выразнымі апісаньнямі падзеяў, трапнымі характарыстыкамі асобаў, дакладнымі высновамі, але таксама адэкватным беларускім бачаньнем працэсаў, адраджэнскай канцэптуальнасьцю ацэнак, якія вынікаюць з галоўнай сутнасьці адвечнага змаганьня з Усходам — быць ці ня быць Беларусі.

З гэтых пазыцыяў нацыянальнага ісьнаваньня, барацьбы і адраджэньня аўтар дакладна ацэньвае ня толькі падзеі і працэсы нядаўняга часу, але і аб'ектыўныя ролі асобаў, якія прымалі ўдзел у дзяржаўным кіраваньні і палітычных канфліктах. Яны паказаныя разнабакова (плюсы і мінусы) і цалкам аб'ектыўна, што тычыцца іхных дачыненьняў перад людзьмі і Айчынай.

Праніклівы чытач заўважыць і будзе, відаць, уражаны амбівалентнасьцю паводзінаў асобных афіцыйных палітычных постацяў Беларусі пэрыяду нядаўняга нацыянальнага Адраджэньня (1988 – 1995 гг. па С. Навумчыку). Гэта датычыць перш за ўсё Шушкевіча, у меншай ступені Кебіча, потым Гілевіча, Краўчанкі, Бутэвіча, Дзямчука і іншых, якія сфармаваліся ў камуністычнай сыстэме, пад ціскам абставінаў выйшлі зь яе прэч, але так і не разьвіталіся зь яе звычкамі і псыхалёгіяй, засталіся адной нагой у Менску, другой у Маскве. На прыкладзе ацэнак апанэнтаў Сяргей Навумчык, які быў каардынатарам дэпутацкай Апазыцыі БНФ, гарачым удзельнікам канфліктаў і змаганых падзеяў, выявіў аб'ектыўнасьць, добрыя якасьці дасьледчыка, здольнага глядзець на падзеі збоку і з вышыні і ацэньваць іх па крытэрах шкоды і дабра для Беларусі.

Сяргей Навумчык канстатуе, што палітычны працэс Беларускага нацыянальнага Адраджэньня прыпынены з прычыны захопу ўлады ў Беларусі прамаскоўскімі сіламі. Аналізуючы становішча і пэрспэктывы разьвіцьця Беларусі, аўтар (як і ўсе мы цяпер) ня можа не трывожыцца за лёс Бацькаўшчыны, якая апынулася нібы закладніцай уласнага лёсу. Ён піша пра гэта. Але ёсьць канкрэтныя прычыны, ад якіх залежыць гэты як лёс і шлях да перамогі. Чытаньне кнігі Сяргея Навумчыка, упэўнены, дапаможа беларусам убачыць хутчэй гэты шлях і лепей яго распазнаць.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# ЗВАРОТ

## лідэра аб'яднаных дэмакратычных сілаў Беларусі Аляксандра Мілінкевіча

Зварот быў выдадзены з нагоды 16-й гадавіны прыняцьця Дэкляраці аб дзяржаўным сувэрэнітэце Рэспублікі Беларусь. У ёй гаворыцца:

"...Незалежнасьць, свабода, дэмакратыя, дабрабыт — словы аднаго парадку. "Свабода - галоўная маральная і фізычная каштоўнасьць, якая дадзеная кожнай жывой істоце ад нараджэньня". Гэтыя словы Васіля Быкава кажуць нам, што свабода дадзеная чалавеку для таго, каб кожны мог жыць паўнавартасным жыцьцём — і ня толькі ў маральным, але і фізычным аспэкце.

Свае права быць свабодным і незалежным чалавеку даводзіцца пастаянна даказваць. Слабыя — здаюцца, а моцныя адстойваюць гэтае права. Нездарма кажуць: той, хто гатовы прамяняць свабоду на дастатак, не атрымае ні першага, ні другога. І толькі здабыўшы свабоду і незалежнасьць можна будаваць дабрабыт.

Нам трэба таксама разумець, што праблема незалежнасьці Беларусі самым непасрэдным чынам зьвязаная з дэмакратыяй. Незалежнасьць нашай дзяржавы — гэта адзін з галоўных гарантаў пабудовы свабоднага, дэмакратычнага грамадзтва. Уся Беларусь, увесь сьвет павінны ўсьвядоміць - пакуль цяперашняя ўлада будзе разьменьваць сувэрэнітэт краіны, да таго часу беларускае грамадзтва будзе супрацьстаяць гэтаму, і да таго часу ў беларускіх турмах будуць сядзець палітзьняволеныя.

Лёгка падзеяў і здаровы сэнс гавораць пра тое, што свабода абавязкова вернецца ў Беларусь, а незалежнасьць краіны стане велізарнай каштоўнасьцю ўсяго беларускага народу."

# Беларускі страх – да чаго ён вядзе?

Нядаўна ў шасьцёх дзяржавах СНД – Расеі, Украіне, Казахстане, Беларусі й Кіргізіі – правялі ў рамках праекту "Эўразійскі манітор" шырокае сацыялягічнае вывучэньне грамадзкіх настрояў. Галоўнай мэтай было ўстанавіць паказальнікі сацыяльнага й эканамічнага самаадчуваньня людзей і стаўленьне іх да галоўных інстытутаў улады. Што кідаецца ў вочы, гэта – розьніца ў настроях у кожнай з названых краінаў. Гэта асабліва відавочна ў адчуваньні страху й трывогі, якія выклікаюцца ў кожнай з названых краінаў рознымі фактарамі. А страх, як ведама, кіруе паводзінамі чалавека, часамі паралізуе волю, а часамі штурхае на нечаканыя ўчынкі.

Сацыёлягі задавалі рэспандэнтам шырокую шкалу падзеяў або фактараў, якія могуць выклікаць у людзей трывогу й страх. З 25 пунктаў – прыкладам, рост злачынстваў, эпідэміі, анархія ці дыктатура, развал эканомікі, міжэтнічныя канфлікты ды іншыя – трэба было выбраць найбольш актуальнае. Атрымаўся своеасаблівы рэйтынг страхаў і трывогаў, але зь вялікімі розьніцамі ад краіны да краіны. Зразумела, па шмат якіх пазыцыях настрої ў дзяржавах супадаюць. Аднак сацыёлягі зьдзівіла тое, наколькі розьняцца галоўныя страхі ў былых грамадзянаў колішняй адзінай краіны. Гэта паказала, як далёка адыйшлі яны адныя ад другіх. Прыкладам, рост злачынстваў у Азэрбайджане трывожыць мала каго, тады як у Расеі гэтую небясьпеку паставілі на першае месца амаль 80% апытаных. Мала каго трывожыць у Беларусі, Казахстане і Азэрбайджане развал эканомікі, але ўва Ўкраіне гэтага баіцца 60% апытаных грамадзянаў. І гэта зразумела, бо там ужо некалькі месяцаў няма нармальнага ўраду, і ніяк не пачне працу выбраны сёлета парлямэнт. У Расеі пікавыя паказальнікі пасьля росту злачынстваў – пагроза тэрарызму й міжэтнічных канфліктаў. А ў Беларусі?

Беларусаў не трывожаць міжэтнічныя канфлікты ды пагроза тэрарызму, у беларусаў практычна нулявы вынік па пунктах "пагроза бязуладзьдзя й анархіі", "грамадзянская вайна" і "напад іншапляняцянаў". Ня вельмі трывожаць беларусаў прыродныя катаклізмы, развал эканомікі, глябалізацыя, страта сувэрэнітэту ці рэвалюцыя. Таксама як і ў бальшыні грамадзянаў іншых краінаў СНД, беларусаў палохае рост злачынстваў, карупцыя й беззаконьне. Як бы ні старалася афіцыйная беларуская прапаганда давесьці, што гэтыя заганы ў Беларусі выкаранёныя, апытаньні грамадзкай думкі паказваюць, што ў сапраўднасьці малюнак зусім іншы: беларусы часта сутыкаюцца са злачынствамі і карупцыяй, прынамся ня менш, як у Казахстане, Кіргізіі й Азэрбайджане. Але асабліва цікавыя страхі, у якіх Беларусь лідзіруе й абсалютна не супадае зь іншымі краінамі СНД. Гэта проста ўразіла сацыёлягаў. Ніхто не чакаў такіх вынікаў. Толькі беларусаў істотна турбуюць рэпрэсіі й дыктатура, гэта адзін зь пікаў грамадзкага настрою Беларусі. Ні ў адной краіне СНД, дзе праводзіўся "Эўразійскі манітор", так выразна не выдзяляюць у якасьці галоўнага страху рэпрэсіі й наступ дыктатуры, як у Беларусі. Яшчэ адзін вырзна беларускі пік – гэта "абмежаваньне дэмакратыі". Тое, што адбываецца ў краіне, беларусы ўжо не ўспрымаюць як належнае, яны лічаць палітыку ўладаў, палітыку Лукашэнкі наступам дыктатуры й абмежаваньнем дэмакратыі. Сацыёлягі фіксуюць тое, пра што гавораць палітолягі: беларускае гоамадства зьмянілася, зьявілася крытычная маса людзей, якіх не задавальняе сучасны стан справаў у краіне. Людзей палохае гэтая пэрспэктыва, яны ставяць гэта адразу за пагрозай зьбядненьня, ростам злачыннасьці й карупцыі. Скваркі й чаркі для шчасьця беларусаў ужо не дастаткова.

*www.belaruspartizan.org*

# Новы нумар "Запісаў БІНіМ"

Чарговы нумар 30 адзінага часапіса, прысьвечанага дасьледаваньню беларускай эміграцыі, выдадзены ў гонар двух 80-гадовых юбіляраў: гісторыка Янкі Запрудніка (ЗША) і а. Аляксандра Надсона (Вялікабрытанія). У нумары друкуюцца біяграфічныя нарысы пра іх, бібліяграфіі твораў, а таксама выбраныя артыкулы гэтых аўтараў. Сярод тэкстаў а. Аляксандра Надсаона: "Сьвяты Кірыла Тураўскі", "Беларусы ў Грэцкай Калегіі", "Малітвы Скарыны", "Чарнобыль. Наш боль... Наш доўг", казаньні, прамоўленыя ў часе багаслужбаў ў грэка-каталіцкай капліцы сьв. Пятра і Паўла ў Лёндане.

З апублікаванага ў "Запісах" даробку д-ра Янкі Запрудніка прыцягвае ўвагу тэкст "Спробы адраджэньня і аўтарытарная рэакцыя" (1994—1996), які зьяўляецца апошнім разьдзелам з кнігі "Беларусь на гістарычных скрыжаваннях", што падчас выданьня кнігі ў Менску ўвосень 1996 году быў зьняты друкарняй. Акрамя таго ў часапісе публікуюцца прыклады паэтычнай спадчыны Янкі Запрудніка: эпітафіі вядомым дзеячам беларускай эміграцыі.

Сярод іншых "запісаўскіх" тэкстаў: аналіз беларускіх дыяспараў у сьвеце гісторыкам Натальляй Гардзіенка; артыкул Лявона Юрэвіча пра авантурыста-патрыёта, лідэра Беларускага вызвольнага руху Людвіга Галубовіча-Зарэчнага; сьпіс беларускіх сьвятароў, што знаходзіліся ў Нямеччыне ў 1945 годзе.

У "Эпісталярыях" друкуюцца лісты экс-кіраўнічкі СБМ Надзеі Абрамавай-Тэадаровіч да жонкі Д. Касмовіча Надзеі Касмовіч-Міцкевіч, лісты Міхася Забэйды Суміцкага да Надзеі Батурыцкай.

У разьдзеле "Літаратура" апублікаваныя ўрыўкі з "Аўгена Анегіна" ў перакладзе Натальлі Арсеньневай, вершы Вальжыны Морт, пасьлямова Янкі Юхнаўца да апоместьці "Яно".

Акрамя таго, нумар "Запісаў" зьмяшчае агляд кніг эміграцыйнай тэматыкі, што выйшлі за апошнія два гады.

Па пытаньнях атрымання часапісу зьвяртайцеся на старонку *www.knihi.net*

Высокадастойнага айца Аляксандра НАДСОНА, Апостальскага Візытатара для беларусаў каталікоў замежжа, дырэктара беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане, аднаго зь першых заснавальнікаў Згуртаваньня Беларусаў ў Вялікай Брытаніі, аўтара колькіх кніжак і брашураў, адданага працаўніка на сьвецка-культурнай і рэлігійнай ніве віншуем з 80-мі ўгодкамі ягонага жыцьця.

Жадаем шмат шчасьця, добрага здароўя і сілы ў плённай працы на славу Богу і на карысьць Бацькаўшчыны".

*Галоўная Ўправа Згуртаваньня Беларусаў ў Вялікай Брытаніі.*



НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС" АХВЯРАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| М. Сенько | 40 |
| Я. Кацярыніч | 30 |
| Г. Ліхачова | 30 |

Заміж кветак на магілу Веры БАРТУЛЬ:

| | |
|---|---|
| Галіна Бахар | 100 |

Усім шчыры дзякуй!

БЕЛАРУС
Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце
Выдае штомесячна:
Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
Сусьветнае сеціва: baza-belarus.org
Падпіска $30 на год.
Чэкі выпісвайце на BIELARUS

BIELARUS
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
Belarusan American Ass'n, Inc.
Subscription $30 yearly
Make checks payable to BIELARUS

Рэдагуе калегія.
Адказны рэдактар Марат КЛАКОЦКІ
Падпіска Сяргей ТРЫГУБОВІЧ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.
Передрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.

Адрас для допісаў і кантактаў:
BIELARUS
P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735
E-mail:
hazetabielarus@att.net
Сусьветнае сеціва:
www.bielarus.org
ISSN 1054-9455